АДНА ЗЯМЛЯ

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

12-18 ЛІСТАПАДА 1999 ГОДА
ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ
ЦАНА 40000 РУБЛЁЎ
№46 (238)

**НАДВОР'Е НА ВЫХАДНЫЯ**

| | Субота, 20 лістапада | | Нядзеля, 21 лістапада | |
|---|---|---|---|---|
| | Мінск | Вільня | Мінск | Вільня |
| Уначы | -6°C – +3°C | +4°C | -1°C – +5°C | 0°C |
| Удзень | -2°C – +2°C | +4°C | 0°C – +2°C | +2°C |

МАЛАДЗЕЧНА

## Радашковічы без цяпла

З–за падзення ціску ў сістэме падачы вады адбылася аварыя на "цеплавым сэрцы" Радашковічаў – кацельні жыллёва–камунальнай гаспадаркі. Аварыя аказалася настолькі складанай, што больш за тыдзень кацельня не можа ўвайсці ў нармальны рэжым.

Сярэдняя школа цяпер на каранціне, дзіцячыя садкі не працуюць, бальніца не ацяпляецца. Застаўся без цяпла і жылы масіў. Праўда, па словах камунальнікаў, на газа–мазутнай кацельні пакуль імкнуцца працаваць на пячным паліве. Гэта дае толькі 40–45–градусную ваду. У чацвер, на час падпісання газеты ў друк, Радашковічы былі яшчэ ў трывожным чаканні.

Мястэчка застаецца без цяпла не першы раз. У мінулыя ацяпляльныя сезоны здараліся аварыі ў самыя лютыя маразы. Цяпер ніхто не возьмецца спрагназаваць, што чакае Радашковічы зімой. Хаця паліва на кацельні ёсць.

*Мікола ГАЙДУК.*

ВАЛОЖЫН

## Багаты дачнік на белым "лінкольне"

Старшыня праўлення ААТ "Універсальны рынак Ждановічы" **Яўген Шыгалаў** падарыў Івянецкай СШ тры маразільнікі і камплект посуду на 200 чалавек.

Прадпрымальнік мае дачу на тэрыторыі Івянецкага сельсавета.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

МАЛАДЗЕЧНА

## Царква ў ролі "Чырвонага Крыжа"

Тут адкрылася дыяканічная станцыя Беларускага праваслаўнага брацтва Трох віленскіх пакутнікаў. Такія станцыі ёсць у Гомелі, Мінску, Івянцы.

Як і ў таварыстве "Чырвонага Крыжа", маламаёмныя (у першую чаргу, вернікі) праз станцыю будуць забяспечвацца прадуктамі, лекамі, адзеннем, атрымліваць медыцынскую дапамогу.

*Аддзел інфармацыі.*

ВАЛОЖЫН

## Абласныя санітарныя рэкамендацыі

Рэкамендацыю Упраўлення адукацыі аблвыканкома аб гадаванні на базе школ гусей, авечак і г. д. на месцах успрынялі як загад ("РГ" пра гэта пісала). Летам школы Валожынскага раёна за бюджэтныя грошы набылі 100 гусянят.

І вось цяпер, калі вырашылі іх пусціць на мяса дзецям, высветлілася: у дзіцячых калектывах ужываць мяса вадаплаўных птушак нельга. Гэта супярэчыць санітарным нормам. Гусянят, якія павінны былі палепшыць рацыён школьнікаў, школы прадалі насельніцтву.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

ВАЛОЖЫН

## Калгасы на «прычэпе»

На выязным пасяджэнні аблвыканкома, якое адбылося ў райцэнтры, **Мікалай Дамашкевіч** сказаў, што кожны раён павінен узяць пад апеку не менш як 5 адстаючых гаспадарак.

Прыкладам такога "зрошчвання" у раёне старшыня Мінскага аблвыканкома застаўся задаволены. Год таму дзяржпрадпрыемства "Крыніца" узяло "на прычэп" калгас "Радзіма". Па словах Мікалая Дамашкевіча, жывёлагадоўчыя памяшканні ў цяперашняй "Радзіме" не горшыя за некаторыя магазіны вобласці.

Генеральны дырэктар "Крыніцы" Аляксандр Кучынскі атрымаў падзяку. А некаторыя раённыя кіраўнікі развіталіся з пасадамі.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

МЯДЗЕЛ

## Працягваюцца пошукі рыбакоў

Вадалазы мясцовай выратавальнай станцыі ўсё яшчэ адшукваюць у возеры Нарач рыбакоў, што зніклі больш за тыдзень таму.

Кампанія з Мінска прыехала пагасцяваць у вёску Наносы. Двое – 31– і 38–гадовы – выйшлі на возера парыбачыць на пластыкавай лодцы. Больш іх ніхто не бачыў. Пошукі мінчан (звесткі на сераду) працягваюцца.

*Алесь ВЫСОЦКІ.*

**Ад рэдакцыі.** Існуе версія, што рыбакоў абрабавалі і свядома ўтапілі. Бо, па словах іх сяброў, у аднаго пры сабе была 1 тысяча долараў ЗША.

АШМЯНЫ

## У сад да лагапеда

Пачаўся набор дзетак у Цэнтр карэкцыйна–развіццёвага навучання і рэабілітацыі.

Цэнтр створаны на базе садка №1 і для раёна мае выключнае значэнне. Узначальвае гэтую ўстанову лагапед з вялікім стажам работы **Валянціна Высоцкая**.

*Святлана ВЯЛЬСКАЯ.*

**Ад рэдакцыі.** Пра тое, як працуе падобная ўстанова ў Маладзечне, чытайце на 3-й старонцы.

МАЛАДЗЕЧНА

## Кветкі да рэвалюцыі

Традыцыйным ускладаннем кветак да падножжа помніка Леніну адзначылі 82–ю гадавіну рэвалюцыі члены мясцовай арганізацыі КПБ і прадстаўнікі гарадской вертыкалі.

У адрозненне ад мінулых гадоў, арганізатары мерапрыемства адмежаваліся ад іншых выступленняў, у тым ліку, тых, якія падымаюць характэрныя для праграмы камуністаў палітычныя і сацыяльныя праблемы: саюз Беларусі з Расіяй, фінансавую недаступнасць многіх тавараў, нізкі жыццёвы ўзровень, холад у нашых дамах і кватэрах.

*Янка БЯДАК.*

НАШЫЯ СЛАВУТАСЦІ

# Маладзечанскі «Біг Бэн» можа загаварыць

*МАЛАДЗЕЧНА. Кожнае мястэчка, горад маюць свае адметныя рысы. Маладзечна, прыкладам, мае велізарны гадзіннік, што вісіць на аднайменнай гасцініцы. 11 год паказвае ён гараджанам час.*

У перспектыве можа і "загаварыць". Адна з вытворча–камерцыйных фірмаў мае намер папрацаваць над такім праектам. Хаця пакуль у ВА ЖКГ "Камунальнік" з прапановай агучыць гадзіннік ніхто не звяртаўся.

Будзе гадзіннік чалавечым голасам даводзіць да гараджанаў не заўсёды дакладны час, ці не – усё адно, ён нашая мясцовая славутасць. Важыць гадзіннік паўтары тоны, мае больш за 6 метраў у вышыню. Вялікая стрэлка па вазе і даўжыні нагадвае сярэднестатыстычнага васьмікласніка.

За даволі працяглы час работы гадзіннік так і не атрымаў ад гараджанаў мянушкі. Ды і па тэхнічным пашпарце ён ніхто. Яшчэ і без радаслоўнай.

Мясцовы "Біг Бэн" складаецца з 2 частак: электроннага гадзінніка і выканаўчага механізма (рухавік круціць рэдуктар, а той, у сваю чаргу – стрэлкі). Гадзіннік мае санкт–пецярбургскую прапіску, механізм прывезлі з Ерэвана, астатняе – мясцовай вытворчасці. Усе часткі праектаваліся і збіраліся ў Маладзечне, і напярэдадні святкавання 600–годдзя горада гадзіннік, як успамінае дырэктар гасцініцы **Эльвіра Стурліс**, лябёдкай уздымалі ўверх і замацоўвалі на вежы. Толькі вось падсвятленне, на жаль, не прадугледзелі.

– Ініцыятыва па набыцці гадзінніка зыходзіла ад першага сакратара гаркома партыі (на той час) **Яўстафія Стахоўскага**, – успамінае дырэктар.

Калі ўздымацца па вежавай лесвіцы гасцініцы, "куранты" знаходзяцца паміж 12 і 13 паверхамі і прымацаваныя да сцяны 8 сталёвымі штырамі. Прараб участка вулічнага асвятлення "Камунальніка" **Аляксей Пура** лічыць, што работа гадзінніка прасцейшая за рух паравоза.

– У гадзінніку ёсць запамінальнае ўстройства, – гаворыць ён, – калі па нейкіх прычынах ён спыніцца – у далейшым сам паправіцца на дакладны час.

**– Ці адчуваюцца недахопы ў рабоце "славутасці"?**

– Гадзіннік спазняецца на некалькі хвілін. Стрэлка, што адлічвае хвіліны, пераходзіць з рыскі на рыску па сігнале за 13 секунд. Дарэчы, за ўвесь час гадзіннік ні разу не рамантавалі (не было неабходнасці). Зроблены ён надзейна, ды і прафілактыку робім добрую.

**– Крыху больш за тыдзень, як перайшлі на зімовы час. Таксама па парадзе а трэцяй гадзіне ночы адкручвалі стрэлкі назад?**

– Не, рабілася гэта не ноччу. Ды і назад круціць нельга – можна сапсаваць механізм. Таму стрэлкі пракручвалі ўперад на 11 поўных абаротаў.

**– У чым прынцыповае адрозненне нашых "курантаў" ад маскоўскіх? Чым мы горшыя?**

– Калі не ўдавацца ў тэхнічны бок, маскоўскія куранты – гэта велізарнейшы механічны будзільнік. Яго абслугоўвае, можа, цэлы навукова–даследчы інстытут.

**– Ці рэальна агучыць гэты гадзіннік?**

– Каб ён сам біў боем – малаверагодна. А вось выкарыстоўваць магнітафонны запіс, можа, і магчыма: "Маладзечанскі час 13 гадзін. Час абеду. У магазінах не ўтварайце чэргі, у пасажырскім транспарце захоўвайце чысціню і парадак!". Што ж, гэта цікава.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*



ФОТАКАЛАЖ АЛЕНЫ ЯЎГРАШЫНАЙ.

НАШ РЭГІЁН

Шаноўныя чытачы!

У серыі публікацый «Рэгіянальная газета» плануе расказваць пра гарады, мястэчкі, вёскі нашага рэгіёна, пра ўражанні, якія яны пакідаюць у таго, хто наведваецца сюды зрэдку альбо нават і ўпершыню.

Пачынаем рэпартажы матэрыялам нашага пазаштатнага аўтара Юрыя Карпіцкага з ВАЛОЖЫНА. Глядзіце 2–ю старонку.





Панарама Валожына.

# Выхадны дзень у Валожыне

***ВАЛОЖЫН – горад на рацэ Валожынка. 75 кіламетраў ад Мінска, 17 кіламетраў ад чыгуначнай станцыі Валожын на лініі Маладзечна – Ліда, на аўтастрадзе Мінск – Гродна. У 1995 годзе меў 11,5 тысяч жыхароў. Вядомы з XIV стагоддзя. У розныя часы належаў Манівідам, Вярэйскім, Гаштольдам, Радзівілам, Служкам, Чартарыйскім, Тышкевічам. З 1551 мястэчка ў Ашмянскім павеце Віленскага ваяводства. З 1793 у складзе Расійскай імперыі. З 1921 у складзе Польшчы, цэнтр Валожынскага павета Навагрудскага ваяводства, з верасня 1939 у складзе БССР, з 1940 цэнтр Валожынскага раёна.***

***(Беларуская энцыклапедыя, т. 3, Мінск, 1996 год).***

## Дарога

Працэдура набыцця білетаў у касе Маладзечанскага аўтавакзала заняла не больш за 30 секунд. Цікавае пачалося тады, калі я ўбачыў "сродак", на якім прыйдзецца перамяшчацца. У маленькім аўтобусе ў становішчы "селядзец у бочцы" апынуліся 70 чалавек. Ехаць (трэсціся) ад Маладзечна трэба было больш за гадзіну. Ды яшчэ сярод пасажыраў аказалася некалькі даволі "цёпленькіх" браткоў, якія не давалі сумаваць астатнім у салоне.

## Горад і яго "жывы куток"

Першае, што ўбачыў пасля таго, як дабраўся да мэты падарожжа, было перакрыжаванне дарог, якія ішлі ў розных накірунках. Направа пойдзеш – каня згубіш, прама пойдзеш – сам загінеш. Налева не хацелася, таму вырашыў спытацца ў першых сустрэчных. Імі аказаліся дзве прывабныя маладыя жанчыны. Усё б добра, але калі прадставіўся журналістам, яны ўцяклі ад мяне з зайздроснай хуткасцю.

– А можа, так і трэба? – наведала філасофская думка.

Тым не менш, давялося дзейнічаць проста як у казцы: пайсці, куды вочы глядзяць. Але, відаць, выбраў верны накірунак: пейзажы, што разгортваліся перада мной, былі не зусім звычайныя.

Увогуле, тут я ўбачыў каля дзесятка коней. Вялікая колькасць жывёл на вуліцах неяк кампенсавала амаль поўную адсутнасць людзей. Невялікімі астраўкамі жыцця з'яўляліся толькі магазіны і цэнтр. А так, можна доўга ісці па вуліцы і нікога не сустрэць. Дарэчы будзе адзначыць валожынскія вуліцы, якія нагадваюць трасу атракцыёна "Супер–8": пад'ёмы і спускі тут такія ж самыя.

## Магазіны і цэны

Асартымент тут разнастайны: з прадуктаў ёсць дэфіцытныя ў Маладзечне батоны (56 тысяч рублёў), масла (835 тысяч). Цэны на рыбу ніжэйшыя: навага, мінтай – па 792 тысячы. Ёсць камбала, селядзец, гарбуша. Кансервы: навага, селядзец, салака – па 300–416 тысяч. Алей – 748 тысяч. Вялікі выбар макаронных вырабаў і круп. З мясных прадуктаў можна набыць сасіскі "Маладзечанскія" – 995 тысяч, кілбаса вараная каштуе 864 тысячы, сардэлькі – 904 тысячы, ёсць курыныя шыйкі і нават патрошаныя гусі – 696 тысяч. І нідзе не відаць чэргаў! Увогуле, яны адсутнічалі ва ўсіх магазінах, дзе давялося бываць.

У мясцовым універмагу можна набыць усё: ад бялізны да тэлевізараў. Каб лягчэй маладзечанцы маглі ўявіць сабе асартымент, скажу: да ўнівермага ў Маладзечне дадайце "Дзіцячы свет" і большую палову рэчавага рынку. І гэта не перабольшванне. Там, на мой погляд, не хапала толькі добрай аўдыё–відэатэхнікі.

## Адметныя рысы і месцы горада

Сур'ёзным недахопам можна лічыць адсутнасць у горадзе сметніц. Яны былі заўважаныя толькі ў цэнтры горада, адсюль вялікая колькасць дробнага смецця на зямлі, што не ўпрыгожвае горад.

Калі хто наведае цэнтральную плошчу, то даведаецца, што горад быў заснаваны ў 1407 годзе. Ён можа ганарыцца касцёлам імя Святога Юзафа (які, праўда, цяпер рамантуецца) і праваслаўнай царквой, якая закладзеная ў сярэдзіне XIX стагоддзя. Цэнтр падкупляе сваёй чысцінёй і прыгажосцю. Машын тут мала, таму паветра ў горадзе чыстае. І – не звычайная для маладзечанца цішыня.

## Развітанне з Валожынам

Горад падчас майго там знаходжання падарыў спакой душы, тут добра адпачываць ад маладзечанскай, ды і жыццёвай, мітусні. Пажадаем Валожыну, які маладзейшы за Маладзечна толькі на 19 год, заставацца астраўком міру і спакою на карце нашага рэгіёна.

***Юрый КАРПІЦКІ.***





Цэнтральная плошча.



Касцёл святога Юзафа (1816), помнік архітэктуры.



Шыльдачка з назвамі калектываў, якія адказваюць за вуліцу.



Царква Канстанціна і Алены (1866), помнік архітэктуры.



Трактар і конь – не рэдкасць у валожынскіх дварах.





Масток у цэнтры Валожына.



Са свежым малаком.



Нехта спланаваў так, каб слупы на валожынскай вуліцы стаялі пасярод тратуара. Залішне гаварыць, што гасцям гэтай вуліцы (асабліва ноччу) хадзіць тут не зусім бяспечна і зручна.



Гадуйцеся, кабанчыкі, на радасць гаспадару.



Пад шатамі яблынь. На вуліцы Савецкай.



Бычок, у адрозненне ад жыхароў, на кантакт пайшоў лёгка.

ФОТА ЮРЫЯ КАРПІЦКАГА, АЛЯКСАНДРА МАНЦЭВІЧА.

МЕДЫЦЫНА

# Маладзечанскі дыягностыка–рэабілітацыйны цэнтр – адзіны ў рэспубліцы

*Наогул, такіх цэнтраў некалькі: у Мінску, Брэсце, Барысаве, Вілейцы... У Маладзечне ж ён мае свае асаблівасці, якіх нідзе больш няма. Тут з дзецьмі працуюць з трохтыднёвага ўзросту.*

– Калі была на семінары ў Мінску, у сёмай клініке кафедры неўралогіі, дзе лячэнне дзяцей з неўралагічнымі праблемамі праводзіцца ад іх нараджэння, то падумала: чаму б і нам такім не займацца? Хаця ў нас не лячэбная, а навучальная ўстанова – гаворыць педыятр–неўрапатолаг цэнтра **Ніна Каратай**. – Інваліднасць лепш папярэдзіць. Дарэчы прыём медыкаментаў мы не назначаем. Лечым масажам, лячэбнай фізкультурай з ужываннем розных методык і рэфлексатэрапіяй. Усе нашы пачынанні падтрымлівае дырэктар цэнтра **Віктар Астроўскі**.

У цэнтры, які створаны на базе былога дзіцячага садка №23, працуе 5 спецыялізаваных класаў для навучання пэўнай катэгорыі дзяцей, 2 дашкольныя групы. А вось карэкцыйная група – адна. У ёй 16 дзетак (старэйшаму 6 год) з адхіленнямі ў фізічным і псіхічным развіцці. Кожнае дзіця разам з бацькамі займаецца па індывідуальнай праграме. А час заняткаў выбіраецца зручны і для бацькоў, і для спецыялістаў.

– Неверагодна, але пераймаць ад нас досвед прыязджалі амерыканцы, – расказвае намеснік дырэктара цэнтра **Анжаліка Шапяленка**, – фатаграфавалі касцюм Адэлі. Яго выкарыстоўваюць нашыя касманаўты, калі нанова вучацца хадзіць па зямлі.

– Кожныя бацькі атрымліваюць на дом заданне, – гаворыць масажыст **Марыя Чаеўская**, – напрыклад, як правільна рабіць лячэбны масаж, у які час і па колькі хвілін.

Пра станоўчыя вынікі работы карэкцыйнай групы ўжо смела можна гаварыць. Некалькім дзеткам удалося пазбавіцца дыягназу "інваліднасць". Спецыялісты выказваюць пажаданні больш цеснага супрацоўніцтва з радзільным домам, паліклінікай, бацькамі. У некаторых выпадках адразу можна бачыць псіханеўралагічныя адхіленні.

Дарэчы, хутка ў цэнтры адбудуцца дзве падзеі: цэнтр зменіць назву на "цэнтр карэкцыйна–развіццёвага навучання і рэабілітацыі". І ў лістападзе на яго базе пройдзе семінар. За досведам з'едуцца дырэктары падобных цэнтраў з усёй Беларусі.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*



*Інструктар лячэбнай фізкультуры Аксана Калачык са сваім выхаванцам Сашам.*



*На гімнастычным мячы — як на поні.*



*Масажыст Марыя Чаеўская за работай.*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

КУРСЫ ВАЛЮТ

## Курсы валют НБ РБ

| | 4 лістапада | 11 лістапада |
|---|---|---|
| Долар | 303 000,00 руб. | 305 000,00 руб. |
| Марка Герм. | 162 783,70 руб. | 162 290,95 руб. |
| Літ | 75 732,96 руб. | 76 226,18 руб. |
| Рас. руб. | 11 540,00 руб. | 11 680,00 руб. |
| Злоты | 71 614,28 руб. | 71 336,69 руб. |
| ЕЎРА | 318 377,25 руб. | 317 413,50 руб. |

## "Вулічныя" курсы ў Маладзечне

Долар ........ 680 000–720 000 руб. ..... 680 000–720 000 руб.



ЦЭНЫ НА ПРАДУКТЫ ХАРЧАВАННЯ

## МАЛАДЗЕЧНА. Цэны ў сераду на рынку

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (тыс. руб.) 3.11 | 10.11 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 740 | **740** |
| Кілбаса с/вэндж. | 1 кг | 2680 | **2600** |
| Сасіскі | 1 кг | 614 | **790** |
| Селядзец салёны | 1 кг | 640 | **660** |
| Рыс | 1 кг | 400 | **390** |
| Грэчка | 1 кг | 540 | **550** |
| Цукар | 1 кг | 235 | **230** |
| Алей | 1 л | 620 | **610** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 217 | **239** |
| Маянэз | 250 г | 90 | **90** |
| Кава "Пеле" | 100 г | 750 | **750** |
| Шпроты, бляшанка | 160. г | 270 | **270** |
| Соус там. «Мінскі» | 0,5 л | 210 | **200** |
| Лімоны | 1кг | 700 | **620** |
| Кавун | 1 кг | 100 | **100** |
| Цыбуля рэпчатая | 1 кг | 160 | **150** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 300 | **320** |
| Масла | 1 кг | 1000 | **1000** |
| Тварог | 1 кг | 300 | **380** |
| Малако | 1,5 л | 150 | **150** |
| Бульба | вял.вядро | 500 | **600** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 280 | **280** |
| Яблыкі | 1 кг | 250-300 | **250-300** |
| Капуста | 1 кг | 40 | **45** |
| Морква | 1 кг | 120 | **120** |

СЛУЖБА "02" ІНФАРМУЕ

## Хроніка пажараў

МАЛАДЗЕЧНА. Увечары 3 лістапада па 3–м Рабочым завулку гарэў жылы дом. Пры тушэнні пажару знойдзены труп грамадзяніна В. (інваліда II групы) з прыкметамі гвалтоўнай смерці. Прычына пажару ўстанаўліваецца.

4 лістапада па вуліцы Вандыша, 21 адбыўся выхлап газу, у выніку чаго выбуховай хваляй разбурыла сценку веранды на плошчы 4 кв. м. Пажару не было.

У 6–м мікрараёне з–за пакінутых уключанымі тэнаў гарэў будаўнічы вагончык ПМК–212.

5 лістапада з–за перагрэву печы агнём пашкоджаная летняя кухня ў вёсцы Гарадзілава.

6 лістапада ў Радашковічах па вуліцы Віленскай загарэўся жылы дом, у агні загінула гаспадыня дома, якая нідзе не працавала. Прычына пажару: неасцярожнае абыходжанне з агнём пры курэнні.

7 лістапада ў Маладзечне з–за няспраўнасці коміна гарэў хлеў па В. Гасцінцы. У вёсцы Краснае загарэўся жылы дом, у выніку пажару з–за неасцярожнага абыходжання гаспадара з агнём пры курэнні выгараў пакой памерамі 4х3 м.

8 лістапада на прахадной завода ў Радашковічах адбылася спроба самаспалення грамадзяніна Б. на глебе сямейнай сваркі. Пацярпелы, які быў у стане алкагольнага ап'янення, атрымаў апёкі тулава, рук, галавы 2 і 3 ступені на плошчы 40%.

*Андрэй ТРАЯН, інспектар атрада ваенізаванай пажарнай службы Маладзечанскага раёна.*

ШТО ПРА НАС ПІСАЛІ 90 ГОД ТАМУ

## У Радашковічах пішуць даносы

**Г. Радашковічы, Віленскай губ., Вілейскага пав.**

У нашым горадзе завялося навукі – хоць гаць–гаці, а і то нехват бо ўся аколіца пхае сюды сваіх дзетак як мога. Тутэйшые школкі поўные, але ня ўсім роўна шанцуе. Так, напрыклад, на адну паненку, што кончыла ў Вільні гімназію і вучыць колькі дзеўчатак, зрабілі данос, які – і ўспамінаць не варта; данос, як данос – усякі смердзючы, але чаго спадзявацца лепшаго ад тых каторым свет рэжэ вочы...

**Першая Беларуская Газэта з Рысункамі "Наша Ніва". №46 ад 12 наябра 1909 года.**

*Падрыхтаваў Алесь ВЫСОЦКІ.*

ПОЛЕ ЦУДАЎ

## Леанід Якубовіч «падмануў» віляйчанку

*ВІЛЕЙКА. Інспектар дзяржпажнагляду Алена Альфер за апошні час стала трэцім жыхаром Вілейкі, які браў удзел у гульні ОРТ "Поле цудаў". Тэлеэфір з яе ўдзелам пройдзе 26 лістапада.*

З Масквы Алена прывезла кухонны камбайн "Philips". На жаль, у фінал яна не выйшла.

– Гэта рок, – гаворыць А. Альфер.

Віляйчанка адгадала літару "а". Потым стала банкрутам. І, ужо здагадваючыся пра зашыфраванае слова, чамусьці назвала літару "і", што была ледзь прыкметна падкрэсленая ў паперцы–алфавіце. Можа, такім чынам арганізатары ўводзяць у зман удзельнікаў гульні?



*А. Альфер.*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

А вось дарыла Алена Якубовічу ад усёй душы:

1) паштоўкі, аўтаручкі, брашуркі, пакеты, выдадзеныя да 5–годдзя беларуска–германскага аздараўленчага цэнтра "Надзея–XXI стагоддзе";

2) такую ж прадукцыю і шкатулку з дуба, спецыяльна зробленую для паездкі ў Маскву. Усё з вілейскай сімволікай;

3) керамічны чайны набор з сімволікай "Пажарная служба Міншчыны".

4) куфаль для піва з такой самай сімволікай;

5) кафейнік фарфоравы;

6) запалкі з пажарнай сімволікай, часопісы "Служба выратавання", аўтаручкі, пакеты – з ведамаснага ўпраўлення;

7) 6 вэнджаных ляшчоў.

Калі не ўлічваць вынік гульні, Алена Альфер паездкай засталася задаволеная – новыя знаёмствы, новыя сябры.

*Аддзел інфармацыі.*

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Гандляры зброяй

*СМАРГОНЬ. Нядаўна Смаргонскі раённы суд разгледзеў справу аб гандлярах зброяй. Да адказнасці прыцягнутыя тры маладыя хлопцы (два з Маладзечна і адзін са Смаргоні), якія вырашылі зарабіць на "рознічным" гандлі зброяй.*

Купілі ў Мінску ў нявызначанага чалавека за 400 долараў пісталет сістэмы "парабелум" з патронамі да яго. Адзін з хлопцаў, – Іван – захоўваў яго ў сябе ў кватэры пад матрацам. Пачалі шукаць пакупнікоў пісталета. Планавалі прадаць яго за 1200 долараў.

Пра гэта стала вядома работнікам міліцыі. І прадаўцы пісталета з патронамі былі затрыманыя ў Смаргоні ў момант мяркуемай здзелкі. Зброя канфіскаваная. Па заключэнні балістычнай экспертызы, пісталет тэхнічна спраўны, прыгодны для стральбы.

Пры вызначэнні пакарання суд прыняў пад увагу малады ўзрост падсудных, станоўчыя характарыстыкі, першы факт злачынства. Таму абраная ўмоўная мера пакарання. Івану – ў выглядзе 3 год пазбаўлення волі з выпрабавальным тэрмінам у 3 гады а двум іншым – па 2 гады пазбаўлення волі з выпрабавальным тэрмінам па 2 гады. Калі ў час выпрабавальнага тэрміну яны нічога не здзейсняць, адбываць пакаранне не будуць. А ў выпадку новага злачынства да гэтага тэрміну дададуць новы тэрмін пазбаўлення волі.

*Мікіта ЛІСТАПАД.*

### Міжнароднае таварыства правоў чалавека аб'яўляе Конкурс вучнёўскіх і студэнцкіх работ па правах чалавека

Да ўдзелу запрашаюцца вучні і студэнты Украіны, Расіі, Малдовы, Беларусі, Латвіі, Літвы і Эстоніі. Прапануюцца тэмы:

1. Еўрапейская Канвенцыя і Еўрапейскі Суд – дзейсныя інструменты барацьбы супраць парушэнняў правоў чалавека з боку дзяржавы. Ці згодныя вы з гэтым сцвярджэннем?
2. Якія перашкоды і пагрозы існуюць у вашай краіне для рэалізацыі Канвенцыі па абароне правоў чалавека і асноўных свабод?
3. Патрэбнасць у абароне якіх менавіта правоў вы адчуваеце асабліва востра?
4. Міжнароднае і нацыянальнае заканадаўства: як яны, на ваш погляд, суіснуюць у вашай краіне? Еўрапейская Канвенцыя і Канстытуцыя вашай краіны: агульнае і рознае.
5. Як суадносяцца правы чалавека і яго абавязкі перад грамадствам і дзяржавай? (Магчымы прыклад – усеагульная воінская павіннасць).
6. Гонар чалавека і служба ў арміі: чаму гэтая праблема хвалюе грамадскасць?
7. Як парушаюцца і як ахоўваюцца правы чалавека ў школе?
8. Сельская і гарадская моладзь: правы роўныя, магчымасці розныя. Ці не бачыце вы ў гэтым дыскрымінацыі?
9. Ідэі правоў чалавека ў мастацкай літаратуры.
10. Свабодная тэма, якая адпавядае агульнай накіраванасці Конкурсу.

Работа павінна адпавядаць адной з тэм, быць выкладзенай у форме сачынення–эсэ. Аргкамітэт будзе адхіляць рэфераты, навуковыя паведамленні, аналітычныя даследаванні і да т. п., нават калі такія работы будуць адпавядаць па змесце тэмам Конкурсу.

Для ўдзелу ў Конкурсе дашліце нам: да 25 лістапада 1999 года – заяўку на ўдзел у Конкурсе, у якой указаць: прозвішча, імя, імя па бацьку, узрост, дакладны адрас, афіцыйную назву навучальнай установы і яе адрас; прозвішча, імя, імя па бацьку настаўніка (выкладчыка)–кансультанта (калі вас кансультуюць), яго пасаду і месца работы.
да 25 снежня 1999 года – работу аб'ёмам не больш за 8000 друкаваных знакаў (5 машынапісных старонак фармату А4), надрукаваную або напісаную разборлівым почыркам на рускай ці ўкраінскай мове на адным баку аркуша фармату А4 з палямі, не меншымі за 1 сантыметр, і з нумарацыяй старонак. Інфармацыя пра канкурсанта, навучальную ўстанову і да т. п. даецца толькі на тытульным аркушы. Старонкі работы не трэба сашчэпліваць або сшываць.

Аўтары 20 лепшых работ возьмуць удзел у фінальным этапе Конкурсу ў Кіеве (Украіна) у сакавіку 2000 года.

Тры пераможцы Конкурсу ўзнагароджваюцца паездкай у Еўропу з наведваннем устаноў Савета Еўропы ў сакавіку–маі 2000 года.

Вашы заяўкі і работы дасылайце па адрасе:
Украіна, 01196, г. Кіеў, плошча Лесі Украінкі, 1, МОПЧ–УС, з адзнакай "На Конкурс".
Сувязь з намі: тэл/факс: +044 228–47–51, e-mail: igfm-ua@zeos.net (украінская/руская мовы толькі Doc. Word 95-98)
Тэлефон у Маладзечне 39259, Эдуард Баланчук.

У ВОЛЬНУЮ ХВІЛІНУ

# Крыжаванка

ад Мікалая Хадасевіча, з Беразінскага.



**Па гарызанталях:** 3. Вялікі будынак грамадскага прызначэння, які вызначаецца сваёй архітэктурай. 6. Машына для падымання пасажыраў і грузаў у вышынных дамах і шахтах. 7. Выдумка, няпраўда, хлусня. 9. Верш А. С. Пушкіна, звернуты да дваццаці васьмі ліцэістаў. 14. Момант пачатку спартыўных спаборніцтваў. 17. У мясцовых гаворках: цвёрдая снежная корка ў мароз пасля адлігі. 19. Вобраз якога–небудзь чалавека на карціне, фатаграфіі або ў мастацкім творы. 21. Пеністая хваля. 22. Васковае рэчыва, якое выкарыстоўваецца ў парфумерыі для ўмацавання паху духоў. 23. Падарожжа, поўнае нечаканых здарэнняў. 24. Драўляная агароджа. 25. Знак адрознення на плячах у вайсковым або іншым форменным адзенні. 28. Група цыганскіх сем'яў, якія разам качуюць. 29. Ударны музычны інструмент. 30. Зборнік табліц, геаграфічных карт. 31. Перапрацоўка збожжа ў муку. 34. Выпадак, калі ўрач ці блізкі чалавек свядома абрывае жыццё смяротна хворага. 35. Павелічальнае шкло ў аправе. 37. Старэйшы сын Адама і Евы. 38. Рэчы, упакаваныя для перавозкі цягніком, самалётам, параходам.

**Па вертыкалях:** 1. Мера вагі каштоўных камянёў, роўная 0,2 г. 2. Судна для пераправы цераз раку. 4. Мелкаводны марскі заліў, звычайна, у вусцях рэк. 5. Памяшканне для стаянкі і рамонту самалётаў. 8. Шлях, па якім рухаецца нябеснае цела. 10. Тулава чалавека. 11. Асоба, якая арандуе зямлю, памяшканне і іншае. 12. Суправаджальны дакумент для грузаў, тавараў, якія куды–небудзь перавозяцца. 13. Выкананне музычнага або вакальнага твора адным выканаўцам. 15. Рускі жывапісец, аўтар пейзажа "Маскоўскі дворык". 16. Кіраўніцтва факультэта на чале з дэканам. 18. Шост з металічным крукам і вастрыём. 20. Парнакапытная жывёла. 26. Умоўны знак, якім абазначаюць музычны гук. 27. У бухгалтэрыі: зводная ведамасць прыходу і расходу прадпрыемства за пэўны тэрмін. 28. Пяньковы або драцяны канат. 32. Прадстаўнік народа на тэрыторыі Кітая, Афганістана, Казахстана, Кіргізіі, Узбекістана. 33. Наведванне, пераважна, афіцыйнае або ўрачэбнае. 36. Тэраса ў сярэднеазіяцкіх жылішчах. 37. Тоўстая моцная вяроўка з валокнаў або з дроту.

*Адказы на крыжаванку, змешчаную ў №44.*

**Па гарызанталях:** 1. Кісет. 4. Казна. 8. Кавалерыст. 9. Арнамент. 12. Роля. 13. Самародак. 14. Факт. 17. Какаін. 18. Карта. 19. Кардон. 22. Адвакат. 23. Анархія. 26. Конкурс. 27. Барытон. 30. Турнір. 31. Адрас. 32. Кантон. 36. Рытм. 37. Магістрат. 38. Ціск. 41. Сурвэтка. 42. Стратастат. 43. Янтар. 44. Агіда.

**Па вертыкалях:** 1. Кавалькада. 2. Сола. 3. Тэрмас. 4. Карсар. 5. Зман. 6. Алебарда. 7. Асмалак. 8. Корак. 10. Тытан. 11. Ростань. 15. Міфалогія. 16. Палітыкан. 20. Тарка. 21. Аркан. 24.Ураднік. 25. Бортніцтва. 28. Араторыя. 29. Кантата. 30. Тарос. 33. Накат. 34. Банкір. 35. Нарада. 39. Фэст. 40. Шалі.

НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

## «Сакрэты» камбайнераў

Цікаўлюся ў знаёмага камбайнера, чаму ў яго большыя намалоты, не прастойвае тэхніка.

Чалавек глядзіць на мяне, як на дзівака.

– Дык скажыце, у чым сакрэт? – настойваю я.

Пытае:

– Што робіце, калі, скажам, збіраецеся ў падарожжа на веласіпедзе?

– Правяраю, ці не спусцілі паветра шыны, ці добра замацаваны руль, якое нацяжэнне ланцуга.

– Так, правяраеце гатоўнасць. Тое ж самае раблю і я. Вядома, часу трэба патраціць шмат, каб змазаць, адрэгуляваць, замяніць аўтол, заправіць гаручым бак, ачысціць ад пылу радыятар. Зрабіць усё тое, што патрабуе інструкцыя, не паленавацца, не адкласці на заўтра. Тады і поспех прыходзіць. Ці пачуў ад мяне "сакрэт"?

Прамаўчаў.

А вось "сакрэт" іншага характару. Звяно камбайнераў закачвала ўбіраць участак збажыны ля вёскі Рамаплаўшчына.

Старшыня калгаса Георгій Антонавіч на маю просьбу назваць імя перадавіка махнуў уперад рукой і сказаў:

– Вунь той экіпаж сфатаграфуй, калі пагодзіцца.

Калі камбайнер наблізіўся, даю сігнал, каб спыніўся. Той усміхаецца і адмоўна качае галавой.

Што за прычына? І другім разам не спыніўся. Звяртаюся да кіраўніка гаспадаркі, можа, ён растлумачыць такія паводзіны камбайнера.

– Я таксама не спыніўся б. Убіраюцца апошнія гектары. Разрыў у намалоце нязначны. Спыніся для гутаркі, для фотаздымкі – дык апярэдзіць супернік. Не атрымаеш першы прыз – дыван. Жонка дома будзе чытаць мараль нямала часу.

Нікольaccount не пакрыўдзіўся на камбайнера–перадавіка. Што яму той здымак у газеце?

**Міхась ЧАРНЯЎСКІ.**

## Яна і ты

Для таго, каб знайсці шчасце з мужчынам, трэба моцна яго разумець і крыху кахаць.

Для таго, каб знайсці шчасце з жанчынай, трэба моцна яе кахаць і нават не спрабаваць зразумець.

ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

***"Беларус любіць смачна паесці, – адзначае Уладзімір Караткевіч, калі распавядае пра звычаі, побыт народа ў нарысе "Зямля пад белымі крыламі". – ...Беларусы ведаюць каля тысячы страў з бульбы. Ад звычайнай, печанай на начлезе, якую так добра выкаціць з прыску, абскрэбсці, разламаць і, калі яна яшчэ дыміцца, саліць і, захлынаючыся, глытаць – ад гэтай, печанай, і да "клёцак з душамі" (вялізныя клёцкі з цёртай бульбы, начыненыя мясам), да бульбы, фаршыраванай сушанымі грыбамі і запечанай у гарачай печы. Апісаць усе спосабы немагчыма".***

***Цяпер на стале ў нас мяса не кожны дзень, а бульба назапашаная амаль у кожнага, таму беларуская прымаўка "Бульба – хлебу падмога" гучыць як ніколі надзённа.***

***Прапаную вельмі простыя, але і вельмі смачныя стравы, якімі частаваліся яшчэ нашыя дзяды і прадзеды***

### Тоўчаная бульба

***12–14 бульбін, 80–100 г сала, 2 цыбуліны, соль.***

Бульбу адварыць у падсоленай вадзе, крыху падсушыць і патаўчы. Дробна парэзаныя і абсмажаныя кавалачкі салёнага свінога сала і рэпчатай цыбулі перамяшаць з бульбай.

### Бульбяная бабка

***10–12 бульбін, 150 г сала, 2 цыбуліны, 1 вял. лыжка мукі, соль.***

Бульбу пачысціць, падраць на тарцы (вадкасць не зліваць), дадаць муку, соль. Дробна парэзаныя кавалачкі салёнага свінога сала з прораззю мяса і рэпчатую цыбулю абсмажыць да залацістага колеру, перамяшаць з бульбяной масай і запячы ў духоўцы.

***А цяпер некалькі рэцэптаў з сучаснай беларускай кухні.***

### Бульба, тушаная з цыбуляй

***800 г бульбы, 1 цыбуліна, 100 г сала, 100 г смятаны, 1 маленькая лыжка мукі, перац, соль, зеляніна.***

Дробна парэзаную цыбулю абсмажыць на сале, нарэзаным на кубікі, перамяшаць з бульбай, нарэзанай кружочкамі, пакласці ў посуд, пасыпаць соллю, перцам, заліць смятанай, змяшанай з мукой і разведзенай шклянкай вады, паставіць на слабы агонь і тушыць пад накрыўкай. Гатовую бульбу выкласці на блюда, пасыпаць нарэзанай зялянінай.

### Дранікі аматарскія

***10–12 бульбін, 200 г тварагу, 2 сталовыя лыжкі пшанічнай мукі, 1 яйка, дробка пітной соды, 100 г алею, 2 вялікія лыжкі масла або 150 г смятаны.***

Сырую абабраную бульбу надраць на дробную тарку. Дадаць працерты тварог, пшанічную муку, яйка, соль, соду, старанна перамяшаць і смажыць.

Падаваць з маслам або са смятанай.

**Гаспадыня.**

ГАРАСКОП
15 – 21 ЛІСТАПАДА

**АВЕН (21.03–20.04)**
Адчуеце стомленасць ад аднастайнай работы. Але набярыцеся цярплівасці і не прымайце ніякіх паспешлівых рашэнняў. Унясіце яснасць у адносіны са сваім сябрам, паколькі можаце страціць яго.

**ЦЯЛЕЦ (21.04–21.05)**
Можаце пазбавіцца некалькіх спакуслівых камерцыйных магчымасцяў з–за не ў меру агрэсіўнага падыходу да спраў. Неспакой могуць выклікаць звесткі пра дзіця, якое жыве далёка ад роднага дома.

**БЛІЗНЯТЫ (22.05–21.06)**
Вам гарантавана набыццё багацця, рамантычныя прыгоды і прыемны адпачынак ад цяжкай працы. Праяўляйце асаблівую асцярожнасць пры падпісанні новых камерцыйных пагадненняў і дагавораў.

**РАК (22.06–23.07)**
Усплыве ў новай перспектыве кінутая раней справа, але вам лепш адмовіцца ад гэтага. Некаторыя з вас могуць накіравацца ў замежную паездку. Вас можа чакаць кароткая любоўная прыгода.

**ЛЕЎ (24.07–23.08)**
Прадпрымальнікі разгорнуць новую справу ці нададуць новы размах ужо заведзенай. Можаце атрымаць так патрэбныя вам цяпер крэдыты. Ваш муж (жонка) буддуць настроеныя дагаджаць вам і прапануюць вам вытанчаны пачастунак.

**ДЗЕВА (24.08–23.09)**
Вас чакае бурная грамадская актыўнасць і любоўнае захапленне. Калі першая палова сёлетняга года была прысвечаная кар'еры, то другая будзе цалкам аддадзеная амурным прыгодам.

**ШАЛІ (24.09–23.10)**
Атрымаеце на гэтым тыдні магчымасць заняцца творчай дзейнасцю. Прысвяціце свой час прасоўванню па працы, таму што перад вамі адкрыецца цудоўная магчымасць прадэманстраваць свае здольнасці.

**СКАРПІЁН (24.10–22.11)**
Новы праект будзе паспяховы, калі ён звязаны са знешнім гандлем. Дружба апошняга часу перарасце ў рамантычную сувязь. Не спяшайцеся і будзьце як мага далікатнейшыя, калі хочаце даведацца пра сябра больш.

**СТРАЛЕЦ (23.11–21.12)**
Тыдзень не прынясе вам асаблівых фінансавых набыткаў, але вы абавязкова пачняце нешта новае. Асабістыя адносіны будуць цалкам здавальняючыя. Некаторыя пераедуць у сваю ўласную кватэру.

**КАЗЯРОГ (22.12–20.01)**
Вам давядзецца перагледзець свае адносіны да работы, калі вы хочаце, каб ваша кар'ера была паспяховая. Любоўныя прыгоды прынясуць шмат прыемнага, і вас чакае добры адпачынак.

**ВАДАЛЕЙ (21.01–19.02)**
Вы ўжо маеце надзейную работу, аднак можа з'явіцца магчымасць пераходу на больш перспектыўнае месца. Больш разумна, аднак, не паддавацца спакусе. Заканых чакае фантастычны тыдзень.

**РЫБЫ (20.02–20.03)**
Фінансавыя справы будуць складацца для вас надзіва спрыяльна. Вашы любоўныя адносіны будуць разгортвацца сваім парадкам, нягледзячы на шматлікія інтрыгі вакол вас.

КАЛЯНДАР САДАВОДА–АГАРОДНІКА

## *Лістапад*

### Суніцы

Для лепшай затрымкі снегу расстаўце на ўчастку шчыты, раскідайце лапнік, сухое галлё. Нават невялікі снегавы покрыў у 10–15 см захавае суніцы ад пашкоджанняў маразамі.

Пры паніжэнні тэмпературы да 7–8°, калі снегу мала, закрыйце пасадкі мешкавінай, рагожай, шчыльнай паперай. Закрываюць суніцы толькі пасля прамярзання глебы на глыбіню 5–8 см. У час адлігі "коўдры" здымайце.

### Маліна чырвоная

Як мага раней прысыпце нахіленыя кусты снегам.

### Вішня

Рэгулярна абтоптвайце снег на прыствольных кругах дрэў. Пры моцных снегападах скідвайце снег з галінак.

### Вузельчыкі на памяць

* * *

З наступленнем устойлівых халадоў пачынайце ўкрываць цеплалюбівыя кусты (пляцістыя і чайнагібрыдныя ружы, гартэнзію садовую, рададэндраны і іншыя). Галіны іхнія прыгніце і прышпіліце да зямлі, аснаванне кустоў акучце і засыпце апалым лісцем.

* * *

Лозы клемацісаў зніміце з апор, скруціце ў кольцы і пакладзіце на зямлі. Аснаванне кустоў засыпце торфам, пяском, пілавіннем слоем 15–20 см.

* * *

У другой палове лістапада самы час заняцца падзімняй сяўбой холадаўстойлівых аднагалетніх кветак: астры, каляндулы (наготкаў), алісума, касмеі, кларкіі, гадэцыі.

Загадзя перакапаную і ўгноеную зямлю разраўняйце, зрабіце неглыбокія равочкі і пасейце насенне. Прысыпце яго слоем перагною або кампосту, перамяшанага з пяском, і прыкрыйце лісцем.

Заўважана, што падзімняя сяўба дае больш дружныя ўсходы, чым веснавая, і, да таго ж, пазбаўляе ад гэтай работы ранняй вясной.

ПРОСТА АНЕКДОТ

Прыдворны шут ішоў па каралеўскіх пакоях і ўбачыў, што кароль нізка нахіліўся над вялізным акварыумам з любімымі залатымі рыбкамі. Нешта стукнула шуту ў галаву: ён крадком падышоў да караля і даў яму такога выспятка, што ўладыка ўпаў у акварыум. Натуральна, ён зароў, прыбегла ахова і скруціла шута. Тут якраз і кароль выбраўся з вады:

– Шут, табе неадкладна адсякуць галаву, калі ты зараз жа не прыдумаеш апраўданне – яшчэ больш нахабнае, чым тое, што ты зрабіў!

– Даруйце, ваша вялікасць, мне падалося, што гэта каралева.

ХАВАЙСЯ Ў БУЛЬБУ

## Нацыянальная псіхалогія

Сонечнай раніцай металанафтавы магнат выходзіць з дому і ідзе да службовага шасцісотага «Мерседэса». Сам (дзверцы перад ім ніхто не адчыняе) сядае і заўважае поўны суму твар шафёра:

- Міхалыч, ну што ты такі кіслы ўвесь час? Што зноў не так? Нешта хандрыш, куксішся, незадаволены ўсім.

Шафёр моўчкі, з кіслай фізіяноміяй кранае машыну.

Магнат не супакойваецца:

- Не, ну ты мне адкажы: з твайго Гадзюкіна я цябе выцягнуў?

- Ну, выцягнулі...

- Ад бандзюг гадзюкінскіх адмазаў?

- Ну, адмазалі...

- Кватэру ў сталіцы купіў?

- Ну, купілі...

- Зарплата расце?

- Ну, расце...

- Я ў рэстаране п'ю, ты дзе сядзіш?

- Ну, у рэстаране...

- Машыну ты прасіў памяняць - «Сааб» на «Мерседэс» памянялі?

- Ну, памянялі...

- Дык што тады не так, што ты незадаволены ўвесь час?!

- Эх, Сяргей Рыгоравіч, каб нас яшчэ вазіў хто...

